*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***



# наша слова.*pdf*



**Другі год выдання** **№ 31 (83) 2 жніўня 2023 г.**

# З усіх пацех нам дастаўся смех

*Галоўныя завадатары айчыннага жартоўнага руху - удзельнікі Рэспубліканскага фестывалю народнага гумару "Аўцюкі 2023" - прывіталі лепшых гумарыстаў з усіх куткоў краіны ў Калінкавіцкім раёне.*

Па традыцыі на свяце быў адкрыты сімвал фестывалю. У гонар сёлетняга, 11-га фэсту ім стала 11-пялёсткавая кветка, якая выконвае жаданні ўсіх гасцей Аўцюкоў.



Не здрадзілі на свяце любімай традыцыі - праўдзенню "мытнага кантролю". Каб трапіць у краіну гумару, так аўцюкоўцы называюць свой населены пункт, - неабходна было замест пашпарта "прад'явіць" жарт, анекдот ці прыпеўку.




Пасля госці змаглі завітаць на гумарыстычныя падворкі. Іх падрыхтавалі ўсе сельскія саветы Калінкавіцкага раёна і госці свята.

*"Эх, лапці мае, абцасы ўсе сцерла.*
*Каб ні пела, ні скакала,*
*то б даўно памерла,"* -

сыпалі прыпеўкамі гаспадары аднаго з падворкаў па матывах кінастужкі "Вяселле ў Малінаўцы". Так, у каларытных вобразах гасцей фестывалю сустрэлі педагогі Калінкавіцкай сярэдняй школы № 7. Кажуць, рыхтаваліся ўсім калектывам, максімальна ўважліва падышлі да прапрацоўкі знешняга выгляду сваіх персанажаў.




- Нашыя палескія жарты ні з чым не параўнаць, а яшчэ тут асаблівыя людзі, пазітыўны запал. Колькі пражыла, нідзе такіх жартаў больш не чула. Ганаруся нашай зямлёй, нашай краінай, - падзялілася Надзея з Гарадзеншчыны, юрыст і аматар здаровага гумару, як сама прадставілася госця свята.

Афіцыйную частку фестывалю адкрылі парад-шэсце з песнямі пад гармонік і прывітанне-віншаванне творчых дэлегацый.

*(Заканчэнне на ст. 2.)*





# З усіх пацех нам дастаўся смех

(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1.)

З галоўнай святочнай сцэны ўрачыста адкрылі Рэспубліканскі фестываль народнага гумару "Аўцюкі 2023" намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама Дзмітрый Алейнікаў і старшыня Калінкавіцкага райвыканкама Сяргей Гвоздзь.

Кіраўнік раёна падзякаваў аблвыканкаму і Міністэрству культуры Беларусі за ўвагу і падтрымку свята на Калінкавіцкай зямлі.

- Гэта самы пазітыўны форум краіны. Ён дае магчымасць усім, хто хоча, ацаніць народны гумар. Гэта фестываль вынаходлівасці, жыццялюбства беларускага народу. Складана ўявіць наша сучаснае жыццё без добрага жарту, і кожны з нас з'яўляецца носьбітам гэтай культуры. Унікальнасць аўцюкоўцаў у тым, што яны заахвочваюць вялікую колькасць удзельнікаў фестывалю. На самой справе пасмяяцца над сабой могуць толькі моцныя духам людзі, таленавітыя і ў працы, і ў адпачынку, - падкрэсліў падчас цырымоніі адкрыцця агульнабеларускага свята намеснік старшыні аблвыканкама Дзмітрый Алейнікаў.

У конкурснай праграме ва ўменні дасціпна жартаваць сёлета паспрачаліся творчыя дэлегацыі з усіх абласцей Беларусі.

Засвяціўся ў Аўцюках і Народны ансамбль бытавых інструментаў "Каханачка" Мажэйкаўскага Дома культуры Лідскага раёна. У рамках фестывалю адбыліся творчыя сустрэчы і прэзентацыі творчасці Гарадзенскай вобласці. Па выніках фестывалю “Каханачка” была ўганаравана Дыпломам I ступені, спецыяльны дыплом у намінацыі "Частушкі" атрымала Людміла Масевіч, кіраўнік калектыва. Віншуем таленавітых артыстаў філіяла "Мажэйкаўскі Дом культуры". У адказ "Каханачка" падарыла лепшы настрой жыхарам ам. Сырод Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці.









- Для мяне сапраўды гонар быць тут. Шчыры дзякуй гасцям, усім людзям, якім прыязджаюць кожны раз на фестываль, - падзякаваў старшыня журы фестывалю "Аўцюкі 2023", мастацкі кіраўнік тэатра народнага гумару і песні "Радзівілаў тэатр" Уладзімір Радзівілаў.

На высокую канкурэнтаздольнасць і рост узроўню арганізацыі свята звярнула ўвагу і член журы фестывалю, начальнік упраўлення культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Беларусі Ірына Карповіч.

- Сёння фестывальная палітра нашай краіны вельмі разнастайная. На інфармацыйным полі сёння беларускім фестывалям нават даводзіцца змагацца за ўвагу, таму што ў адзін і той час праходзяць святы ў розных кутках краіны. Так што ідзе харошая канкурэнцыя за тое, каб прыцягнуць больш наведвальнікаў, быць ў інфармацыйным полі і ў рэйтынгу фестываляў краіны вышэй, лепш, круцей. Гэта садзейнічае развіццю, - адзначыла госця свята.

***Наталля КАПРЫЛЕНКА.***

*Фота аўтара. “Звязда”.*





# Ходараўцы спяваюць, да ягаднай асалоды запрашаюць

У аграмястэчку Ходараўцы ярка і сакавіта прагучаў ягадны фэст "Ходараўцы спяваюць, да ягаднай асалоды запрашаюць". Жыхары і госці аграмястэчка змаглі













нацешыцца выступам артыстаў Лідскага раённага цэнтра культуры і народнай творчасці, ад душы павесяліцца, а галоўнае пачаставацца ягадамі і нацешыцца ягадным настроем гэтага лета.

Дзеці змаглі пракаціцца на атракцыёнах і паўдзельнічаць у запальнай гульнявой праграме Першамайскага Дома культуры, а іх бацькі нацешыцца водарамі гарбаты Ваверскага Дома культуры.

Свята прайшло ярка, а галоўнае нікога не пакінула абыякавым. Бо не дарма Ходараўцы спяваюць ды да ягаднай асалоды запрашаюць....

***Наш кар.***

# Падарунак з водарам малой радзімы

*Напрыканцы ліпеня 2023 года пабачыла свет яшчэ адна кніга паэта, лаўрэата Прэміі імя А.І. Дубко ў галіне літаратуры за 2022 год, Мікалая Іваноўскага "Духмяны падарунак".*










Нават зірнуўшы на вокладку новай кнігі паэта з Гарадзеншчыны Мікалая Іваноўскага "Духмяны падарунак", нібыта пачынаеш адчуваць пах мёду, лекавых зёлак, яблыкаў, пагружаешся ў народны каларыт і аўтэнтычнасць. Ад новага паэтычнага зборніка спадара Мікалая быццам бы ідзе прыемны водар, і хочацца адгарнуць кнігу і далучыцца да чароўнай вясковай атмасферы.

Усяго ў зборніку "Духмяны падарунак", які прызначаны для аўдыторыі школьнікаў сярэдніх і старэйшых класаў, але таксама падыходзіць і для сямейнага прачытання, змешчана пяць паэтычных частак. Прычым, усе яны звязаныя па сэнсе і эмацыянальным настроі: першая нібыта перацякае ў другую - і гэтак далей. Агульны настрой кнігі ўзвышаны і прыгожы, і гэта не дзіўна, бо аўтар натхняўся пры напісанні вершаў прыгажосцю навакольнай прыроды, роднымі краявідамі невялічкай вёсачкі Пачуйкі, назіраў за яе крылатымі і чатырохлапымі жыхарамі.

Першая частка выдання пад назвай "Дары прыроды" змяшчае ў сваім складзе дзве падчасткі: "Дары лесу - грыбы" і "Ягады і плады" - і назвы гэтыя гавораць самі за сябе. Цікава, што вершы першай часткі "Духмянага падарунка" пабудаваны на аснове размоваў дзядулі са сваім маленькім унукам, якому стары распавядае пра лес, у якім расце шмат чаго цікавага, а найперш, канешне, грыбы. А сярод іх царом, як кажуць у народзе, з'ўляецца баравік:

*Баравік лістком прыкрыўся*
*І нагою ў мох зарыўся.*
*Ён вялікі і прыгожы,*
*З аднаго зварыць суп можна.*
*Іх тут цэлая сям'я.*
*Аднаго знайшоў і я.*
*Шапку вытыркнуў ён з моху*
*І застыў з перапалоху,*
*Бо падрэзаў дзедаў нож,*
*І пайшоў грыбок у кош...*

Падрабязна распавядае дзядуля ўнуку і пра іншыя грыбы: лісічкі, маслякі і сыраежкі, падасінавікі і г.д., - і вучыць малога іх збіраць, не забываючы пры гэтым расказаць пра тое, якія грыбы ў лесе браць нельга, бо яны атрутныя.

Асобнае месца адведзена ў першай частцы зборніка ягадам: тут ёсць вершы пра чарніцы, суніцы, маліны, ажыны, брусніцы і, канешне, пра беларускія журавіны:

*Ягады ляжаць на моху,*
*Нібы сыпнулі гароху.*
*Іх чырвоныя хусцінкі,*
*На сцяблінках - павуцінкі.*
*Невялічкае ў іх лісце,*
*Шмат ад ягад тых карысці.*
*Далікатная расліна*
*На балоце журавіна.*
*Ласавацца любіць жораў*
*На балоце гуртам-хорам.*
*Журавіны - нібы вішні.*
*Жораў іх збірае ўвішна.*
*Ягады прыбавяць сілы,*
*Каб падняцца зноў на крылы...*

"Чароўнае лета" - другая частка кнігі пачынаецца са шчымлівага верша "Вішня". Ён прысвечаны дрэву,





якое насамрэч расце каля брамы Мікалая Іваноўскага і з'яўляецца напамінам аб ягонай любай маці:

*Прыгожая вішня расце каля брамы,*
*То памяць матулькі, ад нашае мамы.*
*Бялёсую травень накіне сукенку*
*І вішаньку зробіць чароўнай паненкай.*
*Красуе букетам яна каля бруку,*
*Страчае з дарогі і гладзіць нам рукі.*
*Улетку прывабіць гасцінцам прахожых,*
*Твар дзецям фарбуе і робіць прыгожым.*

Таксама ў другой частцы маляўніча распавядаецца пра гародніну, якая расце каля дома Мікалая Іваноўскага: пра кабачкі, памідоры, гурочкі, бульбу і г.д. Здаецца, што аўтар размаўляе з гэтымі раслінамі, нібы з жывымі істотамі...

Трэцяя частка зборніка, якая носіць назву “Пах духмяных палёў”, прысвечана прыгажосці навакольных краявідаў, што побач з роднымі Пачуйкамі спадара Мікалая. Не забыў аўтар распавесці і пра жыхароў тых мясцін: баброў, буслоў, жураваў і г.д. З асаблівай любоўю піша паэт пра сваіх дарагіх пчолак:

*Даўным-даўно, ад часу ў час*
*Сябруе чалавек у нас,*
*Ён не прыносіць пчолкам шкоды,*
*Будуе вуллі і калоды...*

*А колькі радасці, натхнення,*
*Яу у садку пры задуменні,*
*Пачуеш гул! Не чутна ветру,*
*Дзе водар, пах на кожным метры...*

У чацвёртай частцы зборніка, якая называецца “Зачараваны”, аўтар гаворыць пра сваю любоў не толькі да малой радзімы, але і да Беларусі цалкам і жадае сваёй краіне міру:

*Лясы, дубравы, нашы пушчы,*
*З жывіцай сосны, нібы з тлушчам,*
*Што кронамі трымаюць неба.*
*Квітнее рунь на роднай глебе.*

*О, Беларусь, мая краіна!..*
*Жыццёвай крочу каляінай.*
*Шануйце, людзі, вас малю,*
*Старонку любую маю!*

У пятай частцы кнігі Мікалай Іваноўскі дзеліцца з чытачамі сваімі філасофскімі роздумамі і ўспамінамі, аўтарам уздымаюцца тэмы вайны і міру, дабрыні і зла, важнасці захавання беларускай мовы і прадаўжэння нацыянальных традыцый.

Вось такі ў спадара Мікалая атрымаўся прыгожы і натхняльны “Духмяны падарунак” - чароўная, яркая, маляўнічая кніга. Усім зычу прыемнага прачытання: і дзецям, і дарослым!..

***Інга Вінарская.***

# Выйшаў першы том новага збору твораў Кузьмы Чорнага




Збор твораў Кузьмы Чорнага запланаваны ў 12 тамах. Дагэтуль найбольш прадстаўнічым выданнем празаіка быў 8-томны збор твораў, што пабачыў свет 50 гадоў таму ў 1972-1975 гадах.

У першы том навукова каментаванага Збору твораў класіка беларускай літаратуры Кузьмы Чорнага (1900-1944) увайшлі апавяданні 1921-1925 гадоў, паведамляе сайт выдавецтва "Беларуская навука".

У плане выдання сацыяльна значнай літаратуры пазначаны наклад выдання: 1000 асобнікаў. Аб'ём першага тома - 519 старонак, каментары падрыхтавала Алеся Шамякіна.

***Паводле СМІ.***





# "АЛЬТАНКА" - ДЛЯ АДПАЧЫНКУ І ТВОРЧАСЦІ!

Што такое "альтанка"? У перакладзе з беларускай мовы на рускую гэта - *беседка*, крыты лёгкі будынак у садзе і парку для адпачынку і абароны ад сонца і дажджу. Але, мабыць, не ўсе жыхары горада і раёна знаёмыя з іншай "Альтанкай" - яркай, бліскучай, жыццярадаснай.

Увесну 2019 года, з лёгкай рукі загадчыка аддзела нестацыянарнага абслугоўвання ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці", Юрыя Матуйзы, нарадзіўся новы творчы калектыў - аматарскае аб'яднанне "Альтанка". Ён згуртаваў у сваіх шэрагах таленавітых і крэатыўных людзей: музыкаў, паэтаў, салістаў.

Эмблема "Альтанкі" - белакрылы бусел, які вольна лунае над беларускімі лясамі, сенажацямі, палямі. Мабыць, таму галоўныя гледачы і слухачы канцэртнага калектыва - жыхары аддаленых сёлаў і вёсак Лідскага раёна. Калі вяскоўцы з прычыны пажылога ўзросту самі не могуць прыехаць у гарадскі цэнтр культуры, значыць артысты едуць да іх!

Кожныя выходныя, нягледзячы на прыродныя капрызы і змены надвор'я, аўтобус з "альтанцамі" бойка курсуе па канцэртных пляцоўках. Да прыезду артыстаў у глядзельных залах пад голым небам становіцца шматлюдна. Ганаровыя месцы займаюць прыбраныя і памаладзелыя мясцовыя жыхары. У адпачынак і на летнія вакацыі да іх прыязджаюць з горада дзеці, унукі, праўнукі: наведаць бацькоў, адпачыць душой ды прыезджых артыстаў прывецiць.

Вялікая цікавасць да выступоўцаў праяўляюць і шматлікія гарадскія дачнікі, якія трывала абасналіся на шчодрай вясковай зямлі. Удзячныя слухачы дораць лідскім артыстам бурныя апладысменты, шчаслівыя ўсмешкі і бярэмі духмяных кветак з любімых кветнікаў.

***У чым сакрэт папулярнасці і поспеху ўдзельнікаў аматарскага аб'яднання "Альтанка"?***

Самая галоўная місія артыстаў-валанцёраў - дарыць землякам цяпло сваіх сэрцаў і пазітыўны настрой. Цешыць гледачоў цудоўнымі песнямі і вершаванымі радкамі. Зараджацца дадатнай энергетыкай і нагадваць, што не хлебам адзіным сыты чалавек. Для "альтанцаў" бескарыслівае служэнне людзям - не пустыя словы.

***Хто ж яны такія, гэтыя "альтанцы"?***

Неацэнны досвед працы ў сферы культуры ў нашага галоўнага музычнага "боса" - Юрыя Матуйзы. Ён жа - гукаапаратар і каардынатар. Адказны кіраўнік. Строгі, але аб'ектыўны крытык. Годны калега і добры дарадца.

Непараўнальныя пявунні "Альтанкі" - салісткі Валянціна Тарашкевіч і Галіна Коўзель. Душэўныя песні ў іх выкананні напаўняюць сэрцы вяскоўцаў светлым сумам і настальгіяй па маладосці якая прайшла. Забіяцкія напевы запрашаюць нават самых уседлівых прыхільнікаў пайсці ў скокі. Дзяўчаты спяваюць песні на беларускай, рускай, украінскай мовах.





Арыгінальная адметная "фішка" "Альтанкі" ў параўнанні з іншымі канцэртнымі калектывамі ў тым, што вялікі адсотак рэпертуару займаюць аўтарскія працы. Паэтка-песенніца Людміла Краснадубская дрыготка і праніклівa дзеліцца з землякамі сваімі лірычнымі і патрыятычнымі песнямі. У іх аснову пакладзены вершы ўласнага сачынення.

Вядоўца канцэртнай праграмы калектыва - Тарэза Смольская. Лідская паэтка самастойна піша сцэнары праграм выступу. Чытае аўтарскія вершы. З гумарам дэкламуе ёю ж складзеныя жыццесцвярджальныя байкі на побытавыя тэмы.

Рэпертуар "Альтанкі" разнастайны і ўвесь час абнаўляецца.

У 2023 годзе ў рамках культурна-інфармацыйнага праекта "Клопат" і "Года міру і стваральнай працы" калектыў прадстаўляе канцэртныя праграмы "Памяць, якой не будзе забыцця..." і "Прывітанне, землякі!"

"Альтанку" рэгулярна запрашаюць удзельнічаць









у гарадскіх і раённых мерапрыемствах, фестывалях, фэстах, святах вёсак. Зносіны з пазітыўнай публікай заўсёды цешаць. Толькі за 2022 год на рахунку "Альтанкі" 66 канцэртаў у вёсках і сёлах Лідскага раёна. За першае паўгоддзе 2023 года артыстаў ветліва сустракалі на 48 канцэртных пляцоўках!

Гастролі па беларускай зямлі працягваюцца. "Альтанку" з нецярпеннем чакаюць новыя ўдзячныя прыхільнікі.

"… будзем жыць, кахаць і ўсміхацца,
цешыцца жыццю ўвесь час,
і, вядома ж, зноўку сустракацца!
Мы гатовы выступаць для вас!"

А 30 ліпеня дзяўчаты аматарскага аб'яднання "Альтанка"" былі запрошаны ў якасці ганаровых госцяў на Дзень Ваенна-Марскога Флота, дзе ўдзячныя землякі ўшаноўвалі сваіх герояў - бравых маракоў Лідчыны. “Альтанка” падрыхтавала для годных мужчын - маракоў святочную канцэртную праграму.





У гонар удзельніц калектыва "Альтанка" і ў знак падзякі за падораны святочны настрой ад бравых маракоў Лідчыны прагучала трохразовае: "Ура!"

“Сем футаў пад кілем! Здароўя! Удачы!
Жадаем вам, нашы героі!
Журбінкі па службе! А як жа іначай?
І хай часцей мора вяртаецца ў мроі!”

***Наш кар.***

# У Віцебску пасля аднаўлення адкрылі Вялікую Любавіцкую сінагогу

Будынак сінагогі знаходзіцца на Рэвалюцыйнай вуліцы недалёка ад чыгуначнага вакзала. Ён з'яўляецца часткай гістарычнага цэнтра горада, і мае статус гістарычна-культурнай каштоўнасці, як адзіная ацалелая да нашых дзён сінагога Віцебска мінулых стагоддзяў. Па словах экспертаў і гасцей, якія прысутнічалі на цырымоніі адкрыцця, яшчэ некалькі гадоў - і будынак было б не выратаваць, паведамляюць "Витебские вести". У аднаўленага аб'екта вялікі турыстычны патэнцыял. Побач з ім размяшчаецца дом Марка Шагала, і ёсць усе падставы лічыць, што сям'я мастака наведвала сінагогу. Акрамя таго, яна будзе не толькі месцам для малітваў, але і культурна-асветніцкім цэнтрам з выставамі, прэзентацыямі, яе дзверы будуць адчынены для ўсіх ахвочых.




Жанна Жалевіч распавядае:

- Лехаім! Мазаль тоў!

Год таму Іцхак Коган - галоўны рабін Маскоўскай сінагогі сказаў, што Любавіцкая сінагога будзе адкрыта 30 ліпеня 2023. Так і адбылося! А да гэтага два гады ўзгаднялі дазвол яўрэям аднавіць руіны.





На пачатак 20 стагоддзя ў Віцебску было амаль 60% яўрэяў. Любавіцкая сінагога - была адной з трох вялікіх мураваных, а яшчэ каля сотні было малітоўных дамоў.

У 1923 г. сінагогу закрылі. Пазней змясцілі клуб , а потым склады. Добра, што хоць руіны засталіся. Іншым канфесіям нават і так не пашчасціла.

Галоўны віцебскі рабін Леанід Томчын расказаў, што на руінах яўрэйскай святыні было напісана: "Тут няма бога". Ад сёння адноўлены будынак будзе напаўняцца малітвамі і Богам.

Нічога не разумеўшы ў іудаізме, я запёрлася ў памяшканне на першым паверсе. Аказалася - гэта малельня для мужчын - яны нясуць рэлігію ў хату. А для жанчын балкон на другім паверсе.







Убранне залаў сціплае. Ззяюць золатам толькі жырандолі. Кнігі з малітвамі на іўрыце і транскрыпцыяй на кірыліцы ў драўляных шафах, лаўкі для вернікаў і ўсё. Не павінна раскоша адцягваць увагу ад Бога.

Фінансавалі аднаўленне Віцебскай сінагогі яўрэі ўсяго свету. Я пазнаёмілася з Фрыдай Давыдаў з Віцебска, якая таксама набыла цагліну для гэтай сінагогі.

Ведаеце, што Шагал быў хасідам? Гэты напрамак іўдаізму родам з Беларусі. Сінагога - хасідская.

На ўваходе вісіць партрэт апошняга Віцебскага равіна Шмерля -Лейбы Медальё. Яго расстралялі ў 1938.



Сёння яго праўнучка прыехала ў Віцебск, каб ушанаваць памяць дзеда.

***Паводле СМІ.***

# Скарэктавалі закон "Аб мовах" у сферы афармлення дакументаў, судаводства і мовы адукацыі




Скарэктаваны "Закон аб мовах" апублікаваны на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале. Змены ў законе датычаць афармлення дакументаў беларусаў, судаводства і мовы адукацыі.

Згодна з унесенымі зменамі, звычайны і біяметрычны пашпарты, ID, біяметрычны дыпламатычны і службовы пашпарты выдаюцца **на беларускай, рускай і англійскай мовах** (арт. 10). У ранейшай версіі закона замест апошняй былі пазначаныя *"іншыя мовы"*.

Судаводства і адміністрацыйныя працэсы (арт. 14, 15) можна весці **на беларускай і (або) рускай мовах**. Раней было размежаванне: *на беларускай або рускай*.

Права на атрыманне адукацыі (арт. 21) **на беларускай і (або) рускай мовах** зафіксавалі для сістэм навукова-арыентаванай адукацыі і дадатковай адукацыі адораных дзяцей і моладзі.

Змянілася назва артыкула: *"Права на выхаванне і атрыманне адукацыі на нацыянальнай мове"* на **"Права на атрыманне адукацыі на дзяржаўных мовах Рэспублікі Беларусь"**.

Адгэтуль вучыцца на мовах нацыянальных меншасцяў нельга, дазваляецца толькі вывучэнне іх роднай мовы і літаратуры ў асобных групах і класах паводле рашэння мясцовых органаў улады, узгодненага з Міністэрствам адукацыі.

Знята патрабаванне для кіраўнікоў сістэмы адукацыі валодаць беларускай мовай. Цяпер гэты наказ дзейнічае толькі для педагагічных работнікаў (арт. 22).

У гэтым жа артыкуле зняты абзац, які рэгламентуе механізм выбару мовы навучання ў пэўнай установе адукацыі:**"Асноўная мова навучання і выхавання (беларуская або руская) вызначаецца заснавальнікам установы адукацыі (арганізацыі, якой у адпаведнасці з заканадаўствам дадзена права ажыццяўляць адукацыйную дзейнасць), індывідуальным прадпрымальнікам, якому ў адпаведнасці з заканадаўствам дадзена права ажыццяўляць адукацыйную дзейнасць, з улікам пажаданняў навучэнцаў (законных прадстаўнікоў непаўналетніх навучэнцаў)"**.

Змены набываюць моц пасля афіцыйнага апублікавання.

***Паводле СМІ.***

***Навіны Германії***

# Германія разглядае магчымасць вярнуцца да атамнай энергетыкі

*Восем нямецкіх атамных станцый могуць вярнуцца ў энергетычную сетку краіны. Гэты крок падтрымліваецца насельніцтвам і прынясе эканамічную выгаду. Аднак палітыкі супраць.*



***Атамная электрастанцыя каля Грандэ ў Ніжняй Саксоніі была спынена 31 снежня 2021 года. Фота: www.gettyimages.com***

15 красавіка гэтага года Германія закрыла свае апошнія тры атамныя электрастанцыі. З тых часоў цэны на энерганосьбіты сталі вышэйшыя, чым да энергетычнага крызісу. Краіна стала нетаімпарцёрам электраэнергіі, пацярпела нямецкая прамысловасць. Цяпер многія заводы пераносяцца ў ЗША і іншыя краіны.

Як піша Bild.de, даследчыкі амерыканскай кансалтынгавай кампаніі Radiant Energy Group вывучылі пытанне магчымасці перазапуску ядзерных рэактараў Германіі. У ходзе даследавання было праведзена апытанне членаў праўлення, супрацоўнікаў і экспертаў энергетычных кампаній і былых аператараў атамных станцый.

Навукоўцы адзначаюць, што ўдзельнікі прадставілі падрабязную інфармацыю аб праблемах, звязаных з перазапускам згаданых атамных электрастанцый, пры ўмове, што яны застануцца ананімнымі.

Даследчыкі выявілі, што 67 % немцаў выступаюць за выкарыстанне ядзернай энергіі. Гэты крок спыніў бы спад прамысловай вытворчасці Германіі. Навукоўцы пішуць, што для гэтага няма непераадольных перашкод. Але патрэбныя "прагматызм" і "актыўнасць".

У даследаванні адзначаецца, што вяртанне да атамнай энергетыкі падтрымліваецца грамадскасцю, яно эканамічна выгаднае і здзяйсняльнае. Да таго ж яно можа дапамагчы ў дасягненні мэтаў ЕС па абароне клімату.

Паводле слоў аўтараў, калі б Германія адмяніла паэтапную адмову ад атамнай энергетыкі, эканоміка краіны магла б выйграць ад цэн на электраэнергію, якія былі б нават ніжэйшыя за амерыканскія.

Навукоўцы малююць змрочную карціну актуальнай эканамічнай сітуацыі: *"У траўні 2023 года эканамічныя даныя паказваюць падзенне прамысловай вытворчасці з-за няўстойлівых цэнаў на энергію"*. І прагназуюць: *"Перазапуск васьмі нямецкіх АЭС забяспечыць больш за 85 тэраватт-гадзін электраэнергіі ў год пры затратах на выпрацоўку 25 еўра"*.

Як адзначае Bild.de, такая колькасць электраэнергіі складае 40 % прамысловых патрэб Германіі. Гэта адпавядае энергаспажыванню хімічнай, нафтахімічнай, машынабудаўнічай і прыборабудаўнічай галін, якія ўносяць каля 250 мільярдаў еўра за год у валавы ўнутраны прадукт.

Такім чынам, ядзерная энергетыка магла б істотна аблегчыць жыццё Германіі як прамысловаму цэнтру, які ў цяперашні час знаходзіцца пад вялікім ціскам з-за высокіх цэнаў на энерганосьбіты.

Колькі часу можа спатрэбіцца на перазапуск выведзеных з эксплуатацыі АЭС? Аўтары даследавання адзначаюць, што ў лепшым выпадку спатрэбіцца дзевяць месяцаў, каб вярнуць у шыхт большасць станцый. Больш рэалістычна, што шэсць АЭС могуць быць зноў запушчаны на працягу дзевяці-дванаццаці месяцаў, у той час як дзвюм іншым можа спатрэбіцца ад двух да трох гадоў, перш чым яны зноў змогуць пастаўляць электраэнергію.

Самая вялікая перашкода на гэтым шляху не тэхнічная, а палітычная. Неабходны перагляд Закона аб атамнай энергіі. Як адзначае Bild.de, федэральны міністр эканомікі і член партыі зялёных Роберт Хабек (Robert Habeck) прытрымліваецца адмовы ад атамнай энергетыкі, аддаючы перавагу ў цяперашні час большаму выкарыстанню вугальнай энергіі.

Аўтары адзначаюць, што акрамя гэтага вялікай праблемай для большасці АЭС з'яўляецца падрыхтоўка новага тэхнічнага персаналу для эксплуатацыі станцый. Акрамя таго, у двух выпадках на рамонт, рэканструкцыю і атрыманне новых дазволаў на эксплуатацыю спатрэбіцца некалькі гадоў.

Навукоўцы адзначаюць, што калі б планы былі рэалізаваныя, то выкіды $CO_2$, якія выдзяляюцца пры вытворчасці электраэнергіі ў Германіі, маглі б скараціцца да 80 мільёнаў тон у год за кошт замены вугальных электрастанцый перазапушчанымі атамнымі.

***Паводле СМІ.***





## *Сустрэчы ў Доме Таўлая*

# "Сястра паэта стала маёй хроснай мамай"

Лідзянка Ірына Мікалаеўна Клышко (дзявочае прозвішча - Барысевіч), далёкая сваячка паэта Валянціна Таўлая, ужо пяць гадоў падтрымлівае сувязь з Домам Валянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея. Яна перадала сюды напісаныя ад рукі ўспаміны сястры Валянціна Таўлая Ніны Паўлаўны Радзюкевіч, якая жыве ў Літве (гэтыя ўспаміны пад назвай "Раны сэрца майго" былі змешчаны ў 9-м нумары літаратурна-мастацкага зборніка "Ад лідскіх муроў"), а таксама складзеныя Нінай Паўлаўнай радаводы Таўлаяў і Дарашкевічаў, падрабязны план раёна Ліды, у якім жылі бацька і мачаха Валянціна Таўлая. А на днях Ірына Мікалаеўна разам з навуковым супрацоўнікам Лідскага гісторыка-мастацкага музея, адказным за Дом Валянціна Таўлая, Алесем Хітруном наведалі могілкі па вуліцы Савецкай, каб адшукаць магілы Дарашкевічаў з радні мачахі Валянціна Таўлая. У той дзень магіл не знайшлі, але праз пару дзён ад сястры паэта быў дасланы прыблізны план тых могілак. Пошукі будуць працягвацца. Завітала сваячка паэта на днях і ў Дом Валянціна Таўлая.



- Як вядома, у 1937-1938 гадах бацька Валянціна Таўлая Павел Дзям'янавіч і мачаха Сцепаніда Паўлаўна пераехалі ў Ліду і жылі там да 1943 года, - расказвае Ірына Мікалаеўна пра сваю сваяцкую сувязь з сям'ёй паэта. - Мая бабуля Вольга была стрыечнай сястрой Паўла Дзям'янавіча, а мой дзед Ілля - на той час найлепшым музыкам у Лідзе, іграў на вечарынах. Добрым музыкам быў і Павел Дзям'янавіч, музычны слых перадаўся ад яго Валянціну Таўлаю. Як вядома, дачка Валянціна Таўлая Галіна, якая жыве ў Санкт-Пецярбурзе, усё сваё жыццё звязала з музыкай. Ніна Паўлаўна да гэтага часу помніць, як бабуля Вольга з пяшчотай частавала яе любімымі сырнікамі, і іх смак застаўся ў яе памяці з дзяцінства. Мая мама таксама ведала Паўла Дзям'янавіча. Калі яна вучылася ў школе, бацька паэта часта гаварыў ёй, што трэба шмат чытаць, развівацца, кнігі трымаць у парадку, увогуле падтрымліваць і ў доме парадак і чысціню.

- Мая мама - траюрадная сястра Ніны Паўлаўны, сястры Валянціна Таўлая, - працягвае Ірына Клышко. - Ніна Паўлаўна была частай госцяй у нашай сям'і. Мама мая называла яе Ніначкай. Калі нарадзілася я, сястра паэта стала маёй хроснай мамай (ёй тады было дваццаць два гады). Нават пераехаўшы ў Літву, хросная не забывала пра мяне, кожны год віншавала з днём нараджэння, дасылала паштоўкі, дарыла невялікія падарункі (падораныя ёю фартушок, хустачка і сёння беражліва захоўваюцца ў мяне). У ранейшыя часы сястра паэта па некалькі разоў на год прыязджала да нас у госці, і гэтыя сустрэчы з ёй заўсёды былі яркімі, запамінальнымі. У яе мяккі характар, які быў і ў Валянціна Таўлая. Цяпер мы з Нінай Паўлаўнай перазвоньваемся (у яе ўжо не той узрост, каб прыязджаць да мяне ў Ліду, - нядаўна яна адзначыла свой 90-гадовы юбілей). Тэлефаную я і яе дачцэ, такой жа мяккай і добрай, як і яе мама.

Як адзначае ў сваіх успамінах Ніна Паўлаўна, Павел Дзям'янавіч і Сцепаніда Паўлаўна жылі ў Лідзе ў раёне сучаснай вуліцы Чапаева. Дом той быў вялікі. У ім таксама жыла сястра Сцепаніды Анастасія Паўлаўна. Да нашых дзён дом не захаваўся - згарэў падчас вайны. Доўгі час супрацоўнікі Дома Валянціна Таўлая, абапіраючыся на ўспаміны сястры паэта, лічылі, што той дом знаходзіўся насупраць аптэкі на цяперашнім бульвары Гедыміна, аднак на днях Алесь Хітрун і Анастасія Каладзяжная разам з Ірынай Клышко ўважліва перагледзелі дасланы Нінай Паўлаўнай план участка горада. На падставе вусных успамінаў Ірыны Мікалаеўны высветлілася, што дом той знаходзіўся далей - каля будынка падатковай інспекцыі, цераз дарогу ад дома, у якім жыў Валянцін Таўлай.

- Некаторы час, прыкладна да 1960 года, наша сям'я жыла ў доме па вуліцы Чапаева (завулку Труханава) - здымала там кватэру ў Слукі, - дапаўняе свае ўспаміны Ірына Мікалаеўна. - Я тады была яшчэ вельмі маленькая, але добра памятаю, што ад таго дома была прамая дарога да дома, дзе жылі бацькі паэта, які размяшчаўся вельмі блізка да вуліцы Энгельса. А там, дзе цяпер бульвар Гедыміна, у тыя гады былі агароды.

P. S. Супрацоўнікі Дома Валянціна Таўлая заўсёды рады бачыць у сценах дома-музея сваякоў паэта, занатоўваць іх аповеды. І адна з такіх жаданых гасцей - Ірына Мікалаеўна Клышко, праз якую ад сястры паэта Ніны Паўлаўны ў Дом Таўлая трапляюць каштоўныя матэрыялы і дзякуючы якой нядаўна з'явілася новая версія наконт месцазнаходжання дома бацькі і мачахі паэта ў Лідзе.

*Аляксей КРУПОВІЧ.*



№ 31 (83) 2 ЖНІЎНЯ 2023 г.
наша СЛОВА.pdf

# Ён любіў родны край



31 ліпеня спаўнілася 110 гадоў з дня нараджэння заслужанага настаўніка Беларусі, краязнаўца, гісторыка, заснавальніка Дзятлаўскага гістарычна-краязнаўчага музея Міхася Петрыкевіча (1913-1999).

Родам Міхась Петрыкевіч быў з вёскі Падкасоўе Навагрдскага раёна. У 1925 годзе пасля заканчэння чатырохкласнай пачатковай школы бацька адвозіць сына, Міхася Петрыкевіча, у Адамполь (былы маёнтак графа Храптовіча), дзе польскія ўлады адкрылі двухгадовую школу для падрыхтоўкі кандыдатаў у настаўніцкую семінарыю. Вучыўся юнак добра. Але ў апошнім класе далучыўся да камсамольцаў Заходняй Беларусі, за што Навагрдскі акруговы суд прыгаварыў яго да трох гадоў зняволення і пазбаваіў на 10 гадоў усіх грамадзянскіх правоў. У 1934 годзе Міхась Петрыкевіч выйшаў на волю, аднак вучыцца не меў права, ды і на працу не бралі. Таму падаўся ажно ў Налібоцкую пушчу. Уладкаваўся дрывасекам, але і там непрыкметна займаўся агітацыйна-масавай работай сярод лесарубаў і возчыкаў лесу.

У верасні 1939 года ў Заходнюю Беларусь прыходзіць савецкая ўлада. Міхась Петрыкевіч вяртаецца з Налібоцкай пушчы і едзе ў Навагрдак. Там працуе загадчыкам аднаго са школьных інтэрнатаў першай Навагрдскай школы, а ў вольны час рыхтуецца да паступлення ў інстытут. У 1940 годзе юнак паступае на літфак Беластоцкага педінстытута.

Калі пачалася Другая сусветная вайна, Міхась Петрыкевіч пакінуў Беласток і вярнуўся на радзіму. Летам 1944 года яго забралі служыць у войска. У 1946 годзе ён дэмабілізаваўся і адразу паступіў на другі курс Менскага педінстытута. Пачаў працаваць у Карэліцкай школе, а потым быў пераведзены на пасаду завуча ў Валеўскую сярэднюю школу Навагрдскага раёна. Там у Міхася Фёдаравіча ўзнікла думка стварыць школьны краязнаўчы музей. Дапамагаў яму ў гэтым і настаўнік Уладзімір Урбановіч. Хутка школьны музей у Валеўцы стаў вядомы на



*Міхась Петрыкевіч (другі злева) на ганку студэнцкага інтэрната з сябрамі, 1947 г.*



*Міхась Петрыкевіч са школьнікам*





ўсю Беларусь, а далёка за межы Наваградскага раёна разнеслася і чутка пра нястомнага настаўніка-краязнаўца Міхася Петрыкевіча. Яго запрасілі ў Дзятлава стварыць раённы музей. І ён з сям'ёй паехаў. У Дзятлаве адразу пачаў шукаць матэрыялы, ездзіць па архівах і музеях, па вёсках раёна, дык так захапіўся пошукамі матэрыялаў для будучага Дзятлаўскага раённага музея, што ўжо ні аб чым іншым не мог думаць. І музей быў адкрыты, ён існуе да сённяшніх дзён.



*Янка Брыль, Георгій Вылчаў і Міхась Петрыкевіч на Свіцязі, 1964 г.*

Дзякуючы нястомнай пошукавай і даследчай працы, Міхасю Петрыкевічу ўдалося адкрыць новыя імёны, вярнуць і ўвекавечыць забытую славу некаторых людзей. З яго ініцыятывы былі ўстаноўлены многія помнікі і адкрыты мемарыяльныя дошкі (у прыватнасці, Ігнату Дварчаніну ў вёсцы Погіры), а вуліцам прысвоена імя героя ці знакамітага земляка. Вяртанне гэтых імёнаў не заўсёды было простым. З 1967 года Міхась Петрыкевіч друкаваў у газетах і часопісах артыкулы на розныя краязнаўчыя тэмы. Вельмі шчыра сябраваў з беларускімі пісьменнікамі, асабліва з Уладзімірам Калеснікам, Уладзімірам Караткевічам, Янкам Брылём, Анатолем Іверсам, Фёдарам Янкоўскім, Янкам Скрыганам і многімі іншымі.

Каля 20 гадоў ён аддаў Дзятлаўшчыне, роднаму музею. А потым пераехаў жыць у Вільню да дачкі Святланы і да ўнукаў, хаця не парываў сувязяў з музеем, часта прыязджаў у Дзятлава, пісаў пісьмы, даваў парады, цікавіўся музейнымі справамі. А ў Вільні Міхась Фёдаравіч наведваў Таварыства беларускай культуры, бываў на усіх беларускіх мерапрыемствах…

Да 100-годдзя з дня нараджэння Міхася Петрыкевіча выйшла з друку кніга яго гістарычна-краязнаўчых артыкулаў "Народжаны вечнасць тварыць". У 2013 годзе ў Дзятлаўскім гістарычна-краязнаўчым музеі адзначылі 100-годдзя з дня нараджэння Міхася Петрыкевіча. Падчас ушанавання супрацоўнікі Дзятлаўскага райвыканкама пасмяротна занеслі яго імя ў ганаровую Кнігу Славы Дзятлаўскага раёна. Дакумент пра гэта і спецыяльны кубак уручылі сыну, Валерыю Петрыкевічу.




А на будынку музея некалькі гадоў таму адкрылі мемарыяльную шыльду.

**Наш кар.**



№ 31 (83) 2 ЖНІЎНЯ 2023 г.
наша СЛОВА.pdf

*Хелена Цэгак-Галубовіч*

# Давыд-Гарадок - Пампеі Палесся

**Немцы вывучаюць праславяншчыну**

Амаль што да апошняга часу мы жылі ў прагісторыі якая грунтавалася на абсурдных навуковых пастулатах. У навуковых адкрыццях у справе вывучэння праславяншчыны, нямецкая навука займае першае месца ў Еўропе. Ад немцаў, якія з уласцівым для іх піетэтам прыступілі да раскопак і вывучэння праславянскіх пасяленняў і гарадзішчаў, што зараз знаходзяцца на іх тэрыторыі, мы пачалі даведвацца пра самую старажытную гісторыю нашага народа. Паколькі нямецкая навука не была свабоднай ад пэўнай перадузятасці ў распрацоўцы гэтай тэмы, карціна, прапанаваная нам, была няпоўнай і скажонай.

**Значэнне раскопак у Біскупіне**

Толькі ў апошнія гады мы зрабілі рашучыя і станоўчыя крокі да паляпшэння сваіх навуковых ведаў. Вывучэнне нашай прагісторыі ўвайшло ў стадыю арганізацыі буйнамаштабных раскопак. На першы план выйшла адкрыццё балотнага паселішча ў Біскупіне, сістэматычныя і метадычныя даследаванні якога на працягу трох гадоў рабіліся Познаньскім універсітэтам. Дасканалае інфармаванне пра гэты даследаванні з паказам фільма азначала, што амаль-што кожны разумны чалавек павінен ведаць пра раскопкі ў Біскупіне, а многія, дзякуючы выдатным чыгуначным і аўтобусным камунікацыям, могуць нават наведаць і ўбачыць раскопкі ў Біскупіне на свае вочы. Вялікую важнасць раскопак у Біскупіне прафесар Познаньскага ўніверсітэта др. Юзаф Кастжэўскі тлумачыць тым, што заснавальнікамі паселішча было праславянскае насельніцтва (каля 2000 гадоў таму). Гэтае паселішча для нас з'яўляецца самым старым сведчаннем пра жыццё нашых продкаў тысячы гадоў таму. […]

**Гісторыя знаходак у Давыд-Гарадку**

У нашай частцы краіны першыя адкрыцці, выпадкова, падчас рэстаўрацыі замка, былі зроблены ў Гародні. Вясной гэтага года мы таксама выпадкова даведаліся, што на Замкавай гары ў Давыд-Гарадку знойдзена нешта вельмі старое.

Некалькі гадоў таму пажар знішчыў праваслаўную царкву, якая стаяла на гэтым узгорку. Вясной гэтага года (1937 - *Л. Л.*) пачаліся работы па адбудове царквы і пры капанні падмуркаў, будаўнікі наткнуліся на вельмі старыя труны і не менш старыя драўляныя канструкцыі. Навука мусіла пачаць змаганне за сваё права на даследаванні з несвядомым мясцовым насельніцтвам, і што значна горш, таксама і з несвядомасцю і абыякавасцю нашых адміністрацыйных уладаў. Мясцовае насельніцтва не жадала спыняць работы і імкнулася як мага хутчэй пабудаваць новую царкву. У выніку трывогі, своечасова паднятай газетай "Слова", работы па адбудове царквы былі спынены, аднак прыпыненне мясцовымі ўладамі будаўніцтва царквы самавольна парушыў мясцовы праваслаўны святар, бо пасля прыпынення працы падмуркі, наадварот, пачалі класці з ліхаманкавай хуткасцю.

Некалі дзён таму, аглядаючы знаходкі ў Давыд-Гарадку, я бачыла сляды спусташэння сярод знойдзеных старажытных драўляных канструкцый. Пры закладцы падмуркаў былі выпілаваны драўляныя бярвенні, якія сотні гадоў праляжалі ў зямлі, былі зрэзаны куты і сцены старажытных падвалін. Праз сярэдзіну падвалін аднаго з будынкаў, распілаваўшы бэлькі, выкапалі шырокі роў. Зараз, пасля раскопак, бачны чатыры куты знішчанага дома і дзве яго супрацьлеглыя сцяны. Былі знішчаны не толькі рэшткі драўляных будынкаў. У гэтай частцы Замкавай гары, дзе знойдзены першыя труны, падчас самавольнага закладання падмуркаў пад царкву, таксама знішчылі трынаццаць старажытных трун.

**Метадычныя раскопкі ў Давыд-Гарадку**

Пасля таго, як працы на будаўніцтве царквы былі прыпынены, летам гэтага года, метадычныя раскопкі тут распачаў дырэктар Цэнтральнага археалагічнага музея ў Варшаве др. Раман Якімовіч. Даследчая праца ў гэтым годзе заканчваецца ў бліжэйшы панядзелак (газета выйшла ў суботу 9 кастрычніка 1937 г. - *Л. Л.*). на зіму ўся плошча раскопак будзе абаронена, і даследаванні пачнуцца вясной наступнага года. А сёння раскопкі яшчэ ў самым разгары. Кожны дзень на Замкавай гары працуюць дваццаць жанчын, якія капаюць асцярожней, чым мужчыны, што лепш для археалогіі. Кожны дзень раскопак прыносіць цікавыя адкрыцці.

**Замкавая гара ў Давыд-Гарадку - славянскае гарадзішча**

Замкавая гара ў Давыд-Гарадку аказалася старажытнаславянскай цвердзю. Сёлета раскопкі вядуцца пераважна на ўчастку, сапсаваным фундаментамі, у самым цэнтры гарадзішча. Пасля зняцця паўтарамятровага пласта зямлі, пачалі з'яўляцца першыя драўляныя канструкцыі. У цяперашні час цэнтральная частка была раскрыта ажно да некранутай зямлі. Там ляжаць адзін над адным і перакрыжоўваюцца паміж сабой рэшткі драўляных зрубаў, што з'яўляецца загадкай для недасведчанага чалавека. Аднак вопытнае вока і рука дасведчанага археолага, напрыклад, др. Якімовіча, бачыць у гэтым, здавалася б, хаосе шэраг слаёў, якія адпавядаюць стагоддзям.

**Самыя старыя рэшткі будынкаў паходзяць з XII ст.**

На самым нізе, на некранутай зямлі, ляжаць рэшкі падлогі і падмуркаў зруба будынка. Рэшткі гэтыя, як мне сказаў др. Якімовіч, з'яўляюцца самымі старымі знаходкамі на гэтым гарадзішчы, яны паходзяць з XII ст. На гэтым





участку, сярод фрагментаў керамікі, знойдзена дно посуду з характэрным для XII ст. знакам - выпуклым крыжам у коле. Гэты знак з'яўляецца агульным на для ўсёй славяншчыны. Адны даследчыкі трактуюць яго як знак ганчарнай вытворчасці, а другія бачаць у гэтым знаку адбітак пэўнай часткі канструкцыі ганчарнага кола, на якім посуд быў зроблены. У гэтым першым, самым старым слоі, акрамя керамікі, знойдзена вялікая колькасць фрагментаў бранзалетаў з каляровага шкла, характэрных для XII ст. Гэтыя бранзалеты не ёсць мясцовыя вырабы, яны з'явіліся ў нас праз гандаль, хутчэй за ўсё з Кіевам, бо менавіта ён быў цэнтрам гандлю і ўплыву на Давыд-Гарадок.

**Больш высокія слаі гарадзішча паходзяць з XVI ст.**

Над слоем, які датуецца XII ст., ляжыць шэраг маладзейшых слаёў, якія, паводле інфармацыі др. Якімовіча, ахопліваюць XIII, XIV, XV і дасягаюць XVI ст., для гэтых, больш позніх слаёў, таксама характэрнымі з'яўляюцца дамы са зрубаў. Жылыя дамы і гаспадарчыя пабудовы тут невялікія і нагадваюць старую забудову сучаснага Палесся. Для будаўніцтва на гарадзішчы з даўніх часоў выкарыстоўваюцца дуб і бяроза.

**Стан захавання драўляных канструкцый**

На гарадзішчы выдатна захаваліся ўсе драўляныя канструкцыі дамоў, труны і знойдзеныя драўляныя рэчы. Гэта звязана з прыроднымі ўмовамі рэльефу. Выяўленыя раннія гістарычныя слаі ляжалі на водатрывальным грунце. Дзякуючы гэтаму захаваліся шматлікія драўляныя прадметы, якія ў іншых умовах згнілі б.

**Даследаванне схілаў гарадзішча**

Акрамя раскопак у цэнтры гарадзішча, работы вядуцца і на яго схілах. Капанне тут вельмі ўскладняецца дробным пяском, з якога складаюцца гэтыя схілы. Пры капанні папярэчнага рова на гэтым участку, неабходна было ўразацца ў схіл гарадзішча прыступкамі і такім чынам засцерагчыся ад абсыпання схілаў. Гэтыя работы былі накіраваны на выяўленне канструкцый насыпаных валоў, якія акружалі гарадзішча.

**Чым было гарадзішча**

Гарадзішча ў Давыд-Гарадку, як і ўсе гарадзішчы, было абарончым умацаваннем, часткова насыпаным з зямлі. Пры будаўніцтве гарадзішчаў, стараліся максімальна выкарыстаць прыродныя ўмовы мясцовасці. Натуральна, шукалі пагоркі, акружаныя балотамі, або мысы рэк ці азёр, дзе вада з аднаго боку закрывае доступ да гарадзішча. На Віленшчыне вядомы гарадзішча, якія пабудаваныя на азёрных астравах. Пры будаўніцтве ўмацаванага паселішча на натуральным узгорку або мысе, дасыпаліся стромыя схілы з больш лёгкадаступнага боку. Пры адсутнасці натуральнага ўзвышша, часам штучна ствараліся цэлыя пагоркі. Уверсе, вакол гарадзішча насыпалі высокі земляны вал, на якім, верагодна, стаяў яшчэ і высокі драўляны частакол. Часам паселішча з аднаго боку было яшчэ абнесена валам ля падножжа гарадзішча. Тады мы маем справу з абарончым прадмесцем. Падчас вайны гарадзішча станавіліся сховішчам, куды ўцякала мясцовае насельніцтва са сваёй маёмасцю. Аднак, вядомыя і больш буйныя паселішчы, якія з'ўляліся пастаяннай рэзідэнцыяй уладара, а ў хрысціянскія часы сядзібай рэлігійнага дастойніка, такія гарадзішчы мелі асаблівае значэнне для сваёй тэрыторыі.

На Віленшчыне сустракаем вельмі цікавыя групы пасяленняў, напрыклад, Браслаўскае гарадзішча, якое ляжыць на вузкім перашыйку паміж азёрамі і з'ўлялася цэнтральным пунктам, які з усходу заслаўлася абарончым бар'ерам з трох меншых гарадзішчаў, а з захаду адным адкрытым гарадзішчам. Такая група гарадзішчаў стварае пэўны абарончы комплекс. Аналагічныя абарончыя комплексы можа вывіць толькі працяглае, метадычнае і комплекснае вывучэнне, менавіта такое вывучэнне гарадзішча ў Давыд-Гарадку ў бліжэйшыя гады пачне Археалагічны музей Віленскага ўніверсітэта.

**Навуковыя вынікі**

Раскопкі гарадзішча дазваляюць археолагам вызначыць этнічную прыналежнасць насельніцтва ў старажытным паселішчы. Далейшым вынікам даследавання можа стаць вызначэнне тыпу паселішча, ці было яно ў мінулым звычайным сховішчам падчас вайны, ці было сядзібай правадыра племені, а, можа, і рэлігійным цэнтрам. Такія звесткі маюць вялікае значэнне для рэканструкцыі незапісанай гісторыі. Акрамя таго, капаючы ўмацаванні, мы вывучаем ваеннае мастацтва тых далёкіх стагоддзяў і матэрыяльную культуру людзей, якія іх будавалі. Магчыма, што вывучэнне ўмацаваных паселішчаў дазволіць хаця б фрагментарна даведацца пра грамадскі лад, норавы і звычаі старажытнага насельніцтва.

**Значэнне адкрыццяў у Давд-Гарадку**

Адкрыцці ў Давыд-Гарадку маюць асаблівае значэнне для навукі. Яны дазваляюць нам хаця б часткова пазнаёміцца з ранняй гісторыяй усходніх земляў. […]

**Дагісторыя - самая нацыянальная навука**

Немцы лічаць археалогію (***перадгісторыю*** ў тэксце - *Л. Л.*) самай нацыянальнай навукай (hervorragend nationale Wissenschaft). Нямецкае грамадства ўсведамляе важнасць дагістарычных даследаванняў. Там не магчыма разбурэнне помнікаў. У нашай краіне руйнаваннем помнікаў займаюцца не толькі прыватныя асобы, але і наша адміністрацыйная ўлада, якая не ўсведамляе той шкоды, якую яна робіць навуцы і грамадству праз знішчэнне помнікаў. Бо такім чынам беззваротна губляюцца адзіныя крыніцы, якія дазваляюць вывучаць нашу старажытную гісторыю і гісторыю суседніх з намі народаў.

*Helena Cehak-Holubowiczowa. Dawidgrodek - Pompei Polesia // Slowo. № 279, 9 pazdziernika 1937.*

***Пераклад і каментаванне Леаніда Лаўрэша.***

# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Па пратаколе і без яго: Алейнік, Алейнікаў, Грынкевіч; магікане ў загалоўках і загадкавы магіканіт*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-30 (53-82) за 2023 г.)*

Мы ўжо звярталі ўвагу на значную колькасць зафіксаваных выпадкаў з'яўлення фразеалагізму *"апошні з магікан"* або адзіночна ўжытага апошняга слова ў публікацыях на розных мовах у Беларусі або ў сувязі з Беларуссю - нагодай, у прыватнасці, быў успамін пра нашу перапіску з Уладзімірам Міхно. З'ява гэтая сусветная - але ўсё ж у розных краінах, у залежнасці ад традыцый, статыстыка розная.

Каб не быць галаслоўным і пацвердзіць нашу высокую статыстыку - у каля 70 запісах з "Беларуска-індзейскай бібліяграфіі", якія ніжэй, ёсць прамое ўказанне на магікан у пераносным сэнсе. Бадай, толькі ў нашым артыкуле "Не апошнія з магіканаў" у адносінах да індыянкі з групы, якая мела ў літаральным сэнсе магіканскія карані, выраз ужыты як каламбур - і ў прамым, і крыху ў пераносным сэнсе. Л. Каравін, А. Сербантовіч і Л. Яўменаў таксама ўжываюць слова *"магікане"* ў адносінах да індзейцаў, але не ўласна магікан.

Кароткія ўспаміны

[illegible]

25.10.87

Перачытваючы „Последнего из могикан"

Снился сон мне, страшный, тревожный:
Я остался один, я - последний
Из племени уничтоженного могикан -
Полз обессиленный по кровавому полю
И, раненый, напрасно звал
Родных, близких, стонал от отчаяния,
А в ответ мне лишь из молчания
Эхо в сердце, как томагавк.

Снился сон мне страшный, тревожный:
Я остался один, я - последний...

25.10.1987
г. Гомель

***Кароткія ўспаміны М. Шуканава пра А. Мінкіна і пераклад "Перачытваючы "Апошняга з магікан" " на рускую мову***

АКАДЭМІЯ НАВУК
БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут геахіміі і геафізікі

АКАДЕМИЯ НАУК
БЕЛОРУССКОЙ ССР
Институт геохимии и геофизики

220600, г.Минск, ул.Жодинская, 7. Тел. 64-53-15
Р/счет 120194 в Первомайском отделении Жилсоцбанка г. Минска

30.08.89 № 114/777

На № ________

Беларуска-індзейскае
таварыства
246049 Гомель - [redacted]

Праграма
"500-годдзе сустрэчы народаў:
"Адкрыццё" Амерыкі і Беларусь"

На Ваша запытанне аб назве пароды, якую вядомы падарожнік на Алясцы Л.Загоскін у пераліку сабраных ім мінералаў называе "магіканітам", паведамляем, што сярод наяўных у нас даведнікаў па мінералогіі мінерал "магіканіт" не ўпамінаецца. На нашу думку тэрмін "магіканіт" з'яўляецца састарэлай назвай аднаго з вядомых (раней апісаных) мінералаў.

Вучоны сакратар
Інстытута геахіміі і геафізікі
АН БССР,
канд.геол.-мін.навук Я.І.Аношка

Зак.4.Тираж 3000.

***Letter from Iadviga Anoshka, Institute of Geochemistry and Geophysics (Інстытут геахіміі і геафізікі) 1989-08-30***

Яшчэ каля 130 запісаў публікацый, у якіх зафіксаваная прысутнасць выводзяцца з электроннай табліцы яўна, але сотні знаходзяцца пра *"поўнатэкставым пошуку"* ў нашых архівах.

Растлумачэнне паходжання выразу *"апошні з магікан"* ад назвы рамана Дж. Ф. Купера даецца ў 5-томным "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (1977-1984), у 2-томным "Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы" І. Лепешава (1993) і іншых беларускіх





9 July 91, Tuesday ♡

Dear Svetlana,

Greetings! Please call me Barrie. Your beautiful cards & recipes arrived, & I am so impressed! Your artwork is so lovely! Thank you!

I look forward to getting your Byelorussian Cuisine book, & I will enjoy tasting & perhaps publishing some of the recipes. Please feel free to publish & share my writing & illustrations where there is an interest. I would love to see how my work looks in your language. I would also like to hear about comments & suggestions for it.

I will try to share more ideas & publications with you, & for your special group. I would love to get a picture (photo) of you & your friends. Would you like to have me do an article on you? There would be great interest in all you are doing! Perhaps we could open a broad, sharing network of interested friends. What do you think? Would you begin by giving me some background information on you & your interests? ♡

My birthday is the last day of the year. I'm a Capricorn. When is your birthday? I was born December 31, 1942, in Springfield, Ohio = Elizabeth Barrie McLemore. I married in 1962. My son Christopher was born 12/15/64, & my daughter Kimberlee was born 1/31/68 - both here in Connecticut (Danbury). She is still at college in Chattanooga, Tennessee (Cherokee territory), the University of Tennessee. She likes business, physical fitness, & may be a teacher. My son Chris is married & has 2 babies. ☺ I am a Grandmother!

***Postcard and letter from Barrie E. Kavasch 1991-07-09. Kiowas and Navajos preparing for a fight, pt. 1***



I spent last weekend (4 days) on Cape Cod at the big annual Mashpee Wampanoag Indian Powwow. Wonderful Indian families came together & camped. They came from all over North America to sell their foods, artwork, herbs, crafts, jewelry, & to dance in beautiful regalia. The men drummed & sang late into each night on the open field of grass under a brush arbor. We danced in the large circle, & sang & visited & traded in the rain & sun & fog. It was a very special gathering - as powwows always is. I'll try to send you some pictures.

I love your letters & pictures & sharings!

Please write soon —

Much love,

♡ Barrie

KIOWAS AND NAVAHOS
PREPARING FOR A FIGHT
Pencil and crayon drawing, 1880
American Indian, XIX Century
Unidentified artist, Kiowa tribe
CINCINNATI ART MUSEUM
Gift of Merrit A. Boyle
N212
PRINTED IN USA

***B. E. Kavasch 1991-07-09. Kiowas and Navajos preparing for a fight, pt. 2. Ліст на паштоўцы ад Бары Каваш, ч. 2***

даведачных выданнях. Паходжанне і значэнне гэтага распаўсюджанага выразу растлумачылі ў разлічаным на школьнікаў слоўніку крылатых слоў і выразаў "Чаму мы так гаворым" (1985) І. Шпадарук і В. Рудакоўскі.

У спісе ніжэй мы даём анатацыі толькі да некаторых публікацый, але ў многіх выпадках ужо загаловак або падзагаловак дае ўяўленне, каго або што (а часам гэта



***Postcard, Kiowas and Navajos preparing for a fight, pt. 3***

неадушаўлёныя прадметы, як, напрыклад, чыгуначны будынак або вітамін) набываюць магіканамі. Многія прыклады проста парадаксальныя, магіканы аказваюцца па розныя бакі барыкад.

Зварот да выразу *"магікан(ін)"* часта фіксуецца ў паэтаў, занепакоеных *"выміраннем"* не саміх індзейцаў, а беларускай мовы, культуры, вёсак, у крытыкаў *"буржуазнай"* ідэалогіі і публіцыстаў часоў перабудовы, якія да магікан адносілі, наадварот, апалагетаў калгаснага ладу. Да групоўкі *"магікан"* належаць і самі пісьменнікі, і майстры *народнай творчасці, спартсмены, розныя палітычныя "рэтраграды"*, але і светачы грамадскай сферы. Фразеалагізм *"апошні з магікан"* сапраўды ўжываўся ў беларускай літаратуры ў самых розных выпадках: *"апошнімі"* былі і прадстаўнікі прагрэсіўных знікаючых груп, і асобы з груп, што крытыкаваліся, як *"апошнія з магікан"* у А. Бажко - дажываючыя свой век на Захадзе "беларускія буржуазныя нацыяналісты", белбурнацы або, яшчэ карацей, бебурнацы. А. Бажко быў прыхільнікам *"негатывістычнага"* кірунку ўжывання выразу *"апошні(я) з магікан"*.

*"Мяркуючы па вестках, якія даходзяць да нас з-за акіяна, у мілітарызаванай рэйганаўскай Амерыцы не забыліся і на апошніх "магікан" так званага беларускага нацыянальна-вызвольнага руху".*

*"Карацей кажучы, парыжскі "рыбак" цэрэушнага выдавецтва інстытута "Культура" ў асноўным меў справу з прадстаўнікамі апошніх з "магікан" польскай прабуржуазнай творчай інтэлігенцыі даваеннага часу і маладымі, ды раннімі "левакамі" з розных падазроных маладзёжных палітычных арганізацый і груповак"*. Такім чынам, у кантэкст трапляюць Е. Гедройц і *"вядомы нам"* літаратуразнавец, якога прыгаварылі да смяротнага пакарання, - З. Найдэра. Але ён адносна шчасліва пражыў доўгую рэшту жыцця.

Жыццё і смерць розных беларускіх *"магікан"* і розныя ўвасабленні магіканізму - гэта серыял на тысячы







Оглавление.

Введение. с.1-5

I Социально-политическая обстановка на Западе США перед началом колонизации земель индейских племён. с.5-15.

II Борьба сиу, чейенов и апачей против колонизации США. Политика геноцида в отношении индейских племён. с.16-41.

Заключение с.42-45.

**S. Auramtsau. Graduate work at Gomel State University (GSU). Contents. 1. Pre-colonization conditions in the West; 2. Struggles of the Sioux, Cheyennes, and Apaches**



-1-

Введение.

Данная тема представляет интерес в связи с обострившейся идеологической борьбой. В отчетном докладе XXVII съезду КПСС М.С. Горбачёв говорил: „Развязанная империализмом „психологическая война“ не может квалифицироваться иначе, как особая форма агрессии, информационного империализма, попирающего суверенитет, историю, культуру народов.“1 [illegible]

**С. Аврамцев, ГДУ=ГГУ=GSU work on the Indian wars in the West. Introduction**

эпізодаў. Вось адзін рэдкасны прыклад, можна сказаць, навуковых ідэй, у якім прысутнічае магіканская легендарная аснова.

Акрамя згадкі Беларусі ў сувязі з хрысціянізацыяй карэнных жыхароў Аляскі, даследчык Рускай Амерыкі Л. Загоскін меў сувязь з беларусамі праз сваю сям'ю - яго ўнучка Надзея Гласко ўдзельнічала ў папулярызацыі яго біяграфіі, перавыданні яго твораў. Загоскін таксама называе ў падрадковай заўвазе сваіх "Падарожжаў і даследаванняў…" імя ўраджэнца Беларусі, які дапамог яму разабрацца з мінералагічнымі калекцыямі: *"класіфікацыяй сабраных горных парод я абавязаны дасведчанай уважлівасці прафесара С. С. Кутаргі"*. Не маючы дастатковых ведаў па мінералогіі і дапаможніка, ён *"абмежаваўся зборам толькі тых горных парод, якія здаваліся або асаблівымі з выгляду, або выкарыстоўваюцца тубыльцамі ў хатнім побыце"*. У пераліку мінералаў, знойдзеных *"на правым беразе Квіхпака ў ваколіцах Нулата і да вусця ракі Юкана..."*, фігуруе *"магіканіт"* (*"могиканит"* або *"магиканит"*).

З гэтай нагоды мы звярнуліся да Р. Гарэцкага ў Інстытут геахіміі і геафізікі АН БССР (№ 54 5.06.1989):

*"Паважаны Радзім Гаўрылавіч!*

*Пішам на Ваша імя, але за экспертнай даведкай для праграмы "500 гадоў сустрэчы народаў і культур: "Адкрыццё" Амерыкі і Беларусь", вядома, павінны ўсё ж звярнуцца да аднаго з супрацоўнікаў Вашага інстытута, які спецыялізуецца на мінералагічнай тэрміналогіі. Не маем, на жаль, добрай арыентацыі сярод навукоўцаў натуральных дысцыплін, таму просім Вас - з прабачэннямі за адцягненне Вашага часу - перадаць дадатак кампетэнтнай асобе. Пытанне вельмі "вузкае", спецыфічнае.*

*Адначасова хацелі б звярнуць Вашу ўвагу на тое, што юбілей "адкрыцця" Амерыкі з'яўляецца добрай нагодай падсумаваць уклад беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі ў геалагічнае вывучэнне кантынента. Вельмі павярхоўныя звесткі, якія мы маем, даюць падставу думаць, што не адзін І. Дамейка складае гонар Беларусі ў гэтай галіне".*

Адказ БІТ і праграме "500-годдзе сустрэчы народаў: "Адкрыццё" Амерыкі і Беларусь" дала вучоны сакратар Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР Я. Аношка (30.08.1989):

*"На Ваша запытанне аб назве пароды, якую вядомы падарожнік на Алясцы Л. Загоскін у пераліку сабраных ім мінералаў называе "магіканітам", паведамляем, што сярод наяўных у нас даведнікаў па мінералогіі*







Список используемой литературы.

1. Энгельс Ф. Происхождение семьи, частной собственности и государства. — М.; Политиздат, 1973, с. 91-108.
2. Материалы XXVII съезда КПСС. — М.; Политиздат, 1986, с. 84-97.
3. [illegible] Мой народ сиу. — М.; Прогресс, 1958, с. 40-84.
4. Браун Д. Схороните мое сердце у Вундед-Ни. История американского Запада рассказанная индейцами. — М.; Прогресс, 1984. — 381 с.
5. [illegible] Д. Б. Дайте мне стать свободным человеком. Документальная история индейского сопротивления. — М.; Прогресс, 1984. — 19[illegible] с.
6. Фостер У. З. Очерк политической истории Америки. — М.; Политиздат, 1955, с. 48-297.
7. [illegible] У. Коренные американцы. — М.; Прогресс, 1974. — 90 с.
8. [illegible] М. Индейцы без томагавков. — М.; Прогресс, 1984, с. 294-302.
9. [illegible] В. А. Досье репрессий. — М.; Мол. гвардия, 1987, с. 58-81.
10. [illegible] У. Права американских индейцев. — Америка, 1983, № 315, с. 2-18.
11. [illegible] Л. Мы успокоимся только тогда, когда индейский народ будет свободным. — За рубежом, 1987, № [illegible], с. 14.

***Сяргей Аўрамцаў. Работа ў ГДУ, с. 46. Спіс выкарыстанай літаратуры***

*мінерал "магіканіт" не ўпамінаецца. На нашу думку тэрмін "магіканіт" з'яўляецца састарэлай назвай аднаго з вядомых (раней апісаных) мінералаў".*

*"Падарожжы і даследаванні лейтэнанта Лаўрэнція Загоскіна ў Рускай* [спасылаючыся на яго падарожны журнал, з велізарнай частатой падаюць гэтае слова і як *"руская"*] *Амерыцы* [*"Руская Амерыка"* - устойлівы выраз, пра што часам не ведаюць, пішучы першае слова з малой літары; таксама ён часам ужываецца ў адносінах да рускай дыяспары ў ЗША] *1842-1844 гг."* выйшлі пад агульнай рэдакцыяй, з заўвагамі і каментарыямі М. Чарненкі, Р. Аграната, Я. Бломквіст (Географгіз, 1956). Звязаныя з вывучэннем Поўначы Чарненка - ураджэнец Гомеля, Агранат - Мсціслава, Бломквіст - блізкая беларусам і індзейцам тым, што прысвяціла частку сваіх прац тым і другім.

P. S. Паведамляюць, што ў Ніла Гілевіча ёсць эсэ "Апошні з магікан" (2006), прысвечанае Г. Гарэцкаму.

**Літ.:**

*4768 Загоскин Л. Пешеходная опись части русских владений в Америке, произведенная лейтенантом Л. Загоскиным в 1842, 1843 и 1844 годах: [в 2-х ч.]. СПб., 1847-1848.*

*8457 Черненко М. Б. Лаврентий Алексеевич Загоскин: очерк жизни и деятельности // Путешествия и исследования лейтенанта Лаврентия Загоскина в Русской Америке в 1842-1844 гг. / общ. ред., примеч. и коммент. М. Б. Черненко, Г. А. Аграната, Е. Э. Бломквист. М., 1956. С. 5-40. (Нарыс падрыхтаваны "при участии Аграната Г. А.")*

*8596 Черненко М. Б., Агранат Г. А. Экспедиция лейтенанта Л. А. Загоскина по Русской Америке // Природа. 1954. № 9. С. 73-104.*

*12500 Агранат Г. А. Новые американские работы о Русской Америке // Летопись Севера. [Т.] 2. М., 1957. С. 247-255.*

*11519 Ostatni Mohikanin // Gazeta w Bialymstoku. 2000. 20-21 maja.*

*2699 Антонава Т. Апошні з магікан, або Беларуская сядзіба ў Парыжы, вуліца Гравільe... // Звязда. 1994. 20 ліп.*

*5944 Антонава-Мельяновіч Т. "Разбуранае гняздо", альбо Сціплыя мары апошняй з магікан // Культура. 2001. 19-25 мая. С. 4-5.*

*297 Апошні з магікан? // Звязда. 1991. 9 лют.*

*2778 Апошнія з магікан // Голас Радзімы. 1991. 7 лют. С. 7.*

*2910 Апошнія з магікан // Голас Радзімы. 1995. 13 ліп.*

*442 Апошнія з магікан?.. // Звязда. 1992. 20 лют.*

*8499 Аўрамчык М., Пранузa П., Прыходзька П. "Апошнія з магікан" вялікай вайны: гутарка з паэтамі-ветэранамі / падрыхт. Я. Хвалей // Крыніца. 2003. № 5. С. 11-14.*

*3508 Бебенин О. Последний из могикан: оппозиционер Петр Кравченко может получить портфель посла // Имя. 1997. 5 дек. С. 4.*

*5052 Бэлза С. Последний из могикан: С. Бэлза, заслуженный деятель искусств России... / записала Н. Федотова // Белорусская газета. 1997. 25 авг. С. 15. (Москва-Минск (Direct Speech / Modus Vivendi. Special Report).)*

*6520 Гарбацкі У. Апошні з магіканаў // Наша ніва. 2002. 3 сак. С. 12.*

*467 Дроздов В. Третий зазимок на русской границе. 2. Последний из могикан // Народная газета. 1992. 18 дек.*

*12386 Еловик Е. Последний из могикан: к 100-летию со дня рождения художника // 7 дней. 2004. 20 марта. № 12. С. 13. (С. Дали.)*

*1274 Завтра в номере: "Последний из могикан" / / Физкультурник Белоруссии. 1988. 6 февр.*

*12387 Зеленко В. Вечеринки в складчину; Последний из Могикан: рассказы // Молодая гвардия. 2012. № 12. С. 203-217. (Аўтар з Мінска.)*

*10608 Каржанеўская Г. Апошні з магікан: Нілу Сымонавічу [Гілевічу: верш] // Наша вера. 2016. № 2. С. 38.*

*468 Козлович Н. Последний из "могикан"? // Сельская газета. 1984. 24 апр.*





*8649 Кортес С. Последний из могикан / интервью В. Пепеляева // СБ. Беларусь сегодня. 2010. 4 нояб.*

*12205 Корявин Л. Последние из могикан // Известия. 1988. 2 февр. (Моск. веч. вып.)*

*12332 Краўцэвіч А. Апошні з беларускіх магіканаў // Краўцэвіч А. Краіна паграніčча: выбраныя творы. Смаленск, 2014. С. 61-63.*

*12388 Кузьмин, Д. Последний из могикан / беседовал А. Добриян // Прессбол. 2011. 24 нояб. (Беседа с баскетболистом Дмитрием Кузьминым.)*

*12389 Кулеш, И. И. Последний из могикан / беседовала И. Бортник // Национальная экономическая газета. 2005. 29 июля. С. 1, 4. (Беседа с победителем конкурса "Лучший предприниматель года-2004" директором ООО "Кулеш-стройком" И. И. Кулешом.)*

*5078 Кутнявецкі М. Не апошні з магікан // Народная воля. 1998. 12 чэрв.*

*6100 Лебедевич В. Столле - последние из могикан? / интервью: Северная Снежана; фото Ю. Матуйзо // Музыкальная газета. 2001. 17 апр.*

*5886 Ляўковіч А. "Апошняя з магікан" // Звязда. 2001. 21 крас.*

*469 Мальдис А., Кохановский Г., Лешкович В., Лис А. Последний из "могикан": открытое письмо работников культуры начальнику Белорусской желез-ной дороги А. Г. Андрееву // Советская Белоруссия. 1989. 27 янв.*

*12390 Мартынов С. А. Последний из могикан / [беседовал К. Белоус] // Рэспубліка. 2010 27 лістап. С. 11. (Беседа с чемпионом мира в стрельбе из малокалиберной винтовки С. Мартыновым.)*

*12391 Масалов С. М. Последний из "могикан" / [записал А. Сорокин] // Директор. 2014. № 8. С. 8-9. (Беседа с директором предприятия по монтажно-наладочным работам на объектах АПК "Тираспольская ПМК" С. М. Масаловым.)*

*2413 Махтадуй Т. Апошні з магікан (Талачын) // Звязда. 1993. 30 чэрв.*

*8194 Мехаў У. "Апошні з магікан" прыгадвае: (рэц. на кн.: Рэлес Г. Яўрэйскія савецкія пісьменнікі: мемуары, Мн, 2004, на мове ідыш) // Літаратура і мастацтва. 2006. 3 лістап. С. 6.*

*12392 Мешков А. А. Первые из могикан / беседовал С. Канашиц // СБ. Беларусь сегодня. 2009. 6 февр. С. 14-15. (Беседа с главным тренером Брестского гандбольного клуба им. Мешкова А. А. Мешковым).*

*191 Мінкін А. Перачытваючы "Апошняга з магікан" // Мінкін А. Сурма: вершы. Мн., 1985. С. 11.*

*3622 Мушынская Т. Апошняя з магіканаў // Літаратура і мастацтва. 1998. 24 крас. С. 15.*

*4393 Мы, последние из могикан... / по поручению ассоциации И. Кашкин, А. Шаповалов, М.Борисенко, П.Соколов // Гомельскія ведамасці. 1993. 3 верас. С. 4.*

*10180 Наумов А. Витамин В9 - фолиевая кислота: последний из могикан // Биржа информации. 2003. 3 апр.*

*10609 Нікалаева Н. Каб не стаць "апошнім з магікан" // Звязда. 2016. № 110. С. 6. (Аб абмеркаванні школьных вучэбных праграм па беларускай літаратуры ўдзельнікамі "круглага стала" ў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі.)*

*470 Новицкий В. Последний из могикан / фото Н. Ходкевича // Физкультурник Белоруссии. 1988. 7 февр.*

*471 Панкратов Ю. Последний из могикан? // Знамя юности. 1989. 17 нояб.*

*12334 Петрушкевіч А. Апошняя з магіканаў // Краязнаўчая газета. 2012. № 36. С. 3. [Пра Зоську Верас.]*

*12251 Последние из могикан // Белорусская нива. 2013. 30 марта. С. 8.*

*5100 Последний из могикан // Советская Белоруссия. 2000. 27 мая. С. 3.*

*5974 Последний из могикан // Советская Белоруссия. 2001. 19 мая. С. 3.*

*9718 Пушкін І. Апошні з магікан // Ратуша. 1992. № 11. С.6.*

*11238 Пяткевіч А. Апошняя з магіканаў // Зоська Верас: Бюлетэнь Гродзенскага абласнога аддзялення фонда культуры і абласной бібліятэкі імя Я. Карскага. Гродна, 1992.*

*12393 Реброва Ю. К. Последние из могикан закулисья / [записала О. Костюкевич] // 7 дней. 2006. 15 июня. № 24. С. 30. (Беседа с гримером Белорусского государственного музыкального театра Ю. К. Ребровой.)*

*11548 Романов Ю. Непоследний из могикан / интервью К. Эрмана // В тихом омуте… 1998. № 3.*

*4399 Рушин А. Последний из могикан рассказывает: когда умер русский генерал Беляев, трехдневный траур был объявлен в... Парагвае // Во славу Родины. 1996. 6 февр.*

*10607 Саўчанка П. Апошні беларускі магікан // Рунь. 2008. Жн.-кастр. (№ 61). С. 5 (Пра знакамітага суайчынніка, амерыканскага вучонага Б. У. Кіта.)*

*4420 Сердюков А., Дунцева М. Последние из могикан: В ожидании решения президента предприниматели республки приостановили акцию протеста. Могилев продолжает бастовать... // Имя. 1998. 13 февр. С. 2.*

*3102 Сімакоў А. Не апошнія з магіканаў // Наша ніва. 1996. 19 жн. С. 11.*

*12394 Стригалев А. Последний из могикан // На страже. 2009. 23 янв. № 4. С. 22. (О следователе Л. А. Захарове.)*

*10520 Сямёнаў У. Апошнія з магікан // Ленінскі сцяг (Хойнікі). 2006. 11 студз. (арт. цытуецца ў: 10521 Хадневич Ю. Особенности освещения чернобыльской проблематики в региональной прессе // Рэгіянальная прэса: традыцыі, вопыт, перспектывы. Матэрыялы Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі /*




*рэдкал.: С. В. Дубовік (адк. рэд.) і інш. Мн., 2006.)*

*362 Телевидение: [II пограмма] (19.30 "Ленинградские могикане": В. П. Соловьев-Седой) // Знамя юности. 1991. 12 окт.*

*10630 Хныкава А. Апошні з магікан // Магілёўская праўда. - 1990. - 6 лістап. (Пра старшыню калгаса "Кастрычнік" Чэрыкаўскага раёна У. Р. Страйбулава.)*

*9007 Чыгір Г. Апошні з магікан // Наша воля. 2012. 22 чэрв. С. 2. (В. А. Гербутаў: некралог, фота (партрэт).)*

*84 Чэхаў А. Апошняя магіканка // Чэхаў А. Выбраныя творы / пер. К. Крапівы. Мн., 1937.*

*86 Чэхаў А. Апошняя магіканша // Чэхаў А. Выбраныя творы / пер. К. Крапівы/. Мн., 1946.*

*87 Чэхаў А. Апошняя магіканша // Чэхаў А. Выбраныя творы / [рэд. пер. Я. Брыль]. Мн., 1954.*

*85 Чэхаў А. Апошняя магіканша // Чэхаў А. Юмар: апавяданні / рэд. пер. М. Досін. Мн., 1940.*

*12395 Шапран Ю. "Последний из могикан" колонии Варбурга // Брестский вестник. 2015. № 6. С. 17. (О сохранении исторического ансамбля еврейского квартала Бреста.)*

*6234 Шаровар Д. Последние из могикан // Свободные новости. 2001. 24-28 окт. С. 4.*

*8950 Швед В. Апошні з магікан // Ніва. 2005. 20 сак. (Швед В. Маё васьмідзесяцігоддзе; Мала мама спала; Табе, татулька, дзякуй!; Апошні з магікан; Дзіцячыя гульні; Мой лёс; Не забывай; Пад кронамі гісторыі: [вершы], с. II-III (дадатак: "Ніва" віншуе).)*

*316 Шруб П. Магікане // Літаратура і мастацтва. 1991. 17 мая. С. 8.*

*462 Шруб П. Магікане // Шруб П. Позні світанак. Вершы. Мн., 1992.*

*4521 Шруб П. Магікане // Шруб П. Чорна-белы свет: Вершы. Мн., 1995. С. 55.*

*758 Шумахер П. В. Последний из могикан // Шумахер П. В. Шутки последних лет. М., 1879.*

*8735 Шумахер П. Последний из могикан // Поэты-демократы 1870-1880-х годов. Л., 1968 (Библиотека поэта. Большая серия. 2-е изд.)*

*8734 Шумахер П. Последний из могикан // Шумахер П. В. Стихи и песни. М., 1902.*

*759 Шу-ъ. Последний из могикан: подражание Беранже // Московский вестник. 1860. 23 янв. № 3. (Шумахер П.)*

*3461 Яненко Д. "Либертанс" - это свобода, или Потомки могикан не признают тропы войны // Товарищ. 1996. 26 сент.*

*464 Яўменаў Л. Аб адным з апошніх магікан // Яўменаў Л. Чужая планета: вершы далёкіх дарог і вяртанняў. Мн., 1980. С. 30-31.*

**АЛЕЙНІК Сяргей** - у ліпені 2023 г. наведаў Нікарагуа і сустрэўся з прэзідэнтам Даніэлем Артэга, з markdown рознымі прадстаўнікамі абмеркаваны і падпісаны дакументы па супрацоўніцтве. Як паведаміла "Звязда" 21.07.2023 г., *"У час афіцыйнага візіту ў Нікарагуа 20 ліпеня адбылася сустрэча міністра замежных спраў Сяргея Алейніка з Прэзідэнтам краіны Даніэлем Артэга Сааведра і віцэ-прэзідэнтам Расарыяй Мурылья Самбрана, паведамілі БелТА ў прэс-службе МЗС Беларусі.*

*Падведзены вынікі работы беларускай дэлегацыі ў Манагуа і пацверджана ўзаемная настроенасць актывізаваць супрацоўніцтва для дасягнення пастаўленых мэт. Канстатавана падабенства поглядаў на сусветныя геапалітычныя працэсы і сітуацыі ў адпаведных рэгіёнах.*

*Прэзідэнту Нікарагуа перададзены віншаванні кіраўніка беларускай дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі ў сувязі з 44-годдзем трыумфу Сандзіністкай рэвалюцыі".*

*Таксама Алейнік і іншыя члены беларускай дэлегацыі правялі перагаворы з міністрам замежных спраў Дэнісам Ранальда Манкада Каліндрэсам.*

*Мемарандум аб супрацоўніцтве падпісаны Вялікім тэатрам Беларусі, Нацыянальным тэатрам імя Рубэна Дарыа і нікарагуанскім культурным фондам "Інканта".*

*"Генеральным дырэктарам ААТ "МТЗ" падпісаны рамачны кантракт на пастаўку прадукцыі беларускага завода ў Нікарагуа на двухгадовы перыяд. Прадстаўнік ААТ "МАЗ" з мэрыяй сталічнай Манагуа таксама заключылі кантракт на пастаўку беларускай тэхнікі. Дасягнута дамоўленасць аб пастаўках 236 адзінак тэхнікі ААТ "Амкадор" для будаўнічай галіны і камунальнай гаспадаркі Нікарагуа".*

Як вынік перагавораў Алейніка і Манкада Каліндрэса, для беларусаў паездкі ў Нікарагуа сталі бязвізавымі. Акрамя пагаднення пра візы, падпісана пагадненне аб стварэнні сумеснай камісіі па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве. Таксама разгледжана "дарожная карта"



***Nicaraguan president Daniel Ortega and Belarusian minister Siargei Aleinik. Прэзідэнт Артэга і міністр Алейнік***





па сельскай гаспадарцы.

Алейнік нарадзіўся ў Менску і стаў міністрам замежных спраў у 2022 г. З 2002 па 2008 г. быў пастаянным прадстаўніком пры аддзяленні ААН і іншых міжнародных арганізацыях у Жэневе. Раней, у 1999-2002 гг. - выконваючым абавязкі начальніка, начальнікам службы дзяржаўнага пратакола МЗС. Яшчэ раней быў пастаянным прадстаўніком у Выканаўчым савеце Арганізацыі па забароне хімічнай зброі.

**Літ.:**

*11607 Даніэль Артэга // Новы час. 2009. 8 мая. С. 13.*

*1178 Группа индейских вождей и руководителей "самого долгого похода за выживание" - многомесячного марша, организоваанного рядом организаций американских индейцев, - вручила представителям секретариатата ООН документы, свидетельствующие о систематических нарушениях прав населения американского континента // Знамя юности. 1980. 27 нояб.*

*1224 Дискриминация индейцев в США // Заря (Брест) [?]. 1977. 25 авг. (Женева. 25, ТАСС.)*

**АЛЕЙНІКАЎ Уладзімір** - член БІТ; меў вопыт з карэннымі народамі як Сібіры, так і Амерыкі. Вярнуўся ў Менск з дачкой ад эвенкі, а пазней паехаў у ЗША. Выезд рыхтаваў доўга, перапісваючыся з індзяяністамі ў Корнельскім універсітэце. Выпускнік БДУ, ён жадаў, спецыялізуючыся на іракезах, прадоўжыць адукацыю менавіта па індзяяністыцы ў ЗША, але перашкаджала недастатковае веданне мовы.

Даследчыкаў іракезаў Уладзімір называў іракезістамі.

Сваёй першай навуковай працай ён лічыў артыкул "Гістарычныя рэгіёны Русі: новая канцэпцыя" (у адной кнізе 1994 г. з яго, верагодна, аднадумцам Музай Тарасевіч), у якім ёсць невялікая аднаразовая паралель з індзейцамі.

**Літ.:**

*2877 Алейников В. Е. Исторические регионы Руси: новая концепция // Тарасевич М. И. Национально-культурный состав коренного народа Белоруссии; Алейников В. Е. Исторические регионы Руси: новая концепция. Мн., 1994. С. 38-58.*

*3448 Очеретний А. Ирокезы из БГУ // Имя. 1997. 3 окт.*

*4688 Макарычев В. Черчилль - вождь ирокезов? // Советская Белоруссия. 1999. 23 окт. С. 5.*

*4787 Іракезы // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Т. 7. Мн., 1998. С. 306.*

*12001 Прилуцкий В. В. Протестные движения в США в 1820-1850-е гг. Специальность 07.00.03 - Всеобщая история (новая и новейшая история Европы и Америки): Автореферат диссертации на соискание*

7 July 1993

Dear friends,

I'm sorry for troubling you.

Mr. Ales Simakov, Executive Secretary, Byelorussian-American Indian Society, P.O.Box II4, Gomel 246049, Byelorussia, has recommended to contact you.

My name is Vladimir Aleinikov. I'm 44, married, have three children.

The point is that I'm greatly interested in the history and ethnology of Iroquois and should like to contact with the adherents abroad (Ho-de-no-sau-nee).

Will you kindly inform some details regarding your activities in this field or get to know somebody who develops these problems. Couldn't you describe some of the products you are producing?

I'll be greatly pleased, if you find an opportunity to send, at least, brief catalogue to me. A forwarding letter appears to be send by separate mail, because owing to unsatisfactory and irregular work of our post, thick letters may be lost in the former USSR.

Excuse me once more for troubling you.

Truly yours

Vladimir Aleinikov

July 19/93

Could we ask you to pass the enclosed catalogue along to Mr Aleninikov
The address he has written is not something we feel secure in attempting with our Latin scripted typewriter.

Thank you

IROQRAFTS ltd.
R.R.# 2 Ohsweken, Ontario Canada
N0A 1M0

220018 Byelorussia
г. Минск, [redacted]
[redacted] Алейникову
Владимиру Е.

***Letter to Ron LaFrance 1991-10-15. Aleinikau was advised to write LaFrance as an Iroquois and Iroquoianist***

Ron LaFrance
Cornell American Indian Program
400 Caldwell Hall
Cornell University
Ithaca, NY 14853

October 15, 1991
Gomel

Dear Mr. LaFrance:

I was advised (By Christina B. Johannsen, Director of the Iroquois Indian Museum, Schoharie, NY) to write to you and to establish co-operation and information exchange.

I am studying Byelorussian-American Indian contacts and interested in some facts of these contacts in Iroquois country. For example, Rev. Anthony Rossadowski and Franciscan activities in the area of Syracuse in the 1850s and 1860s ("Iroquois-Franciscan" relations).

I don't know what is your Program and which are your interests in Indian studies, but I hope we can find our common ground and I look forward to hear from you.

Sincerely,

(Mr.) Ales Simakou
Executive Secretary
Byelorussian-American Indian Society
P.O.Box 114
Gomel 246049
Byelorussia, USSR

***Uladzimir Aleinikau to Iroqrafts 1993-07-07, Iroqrafts answers on 1993-07-19***





*ученой степени доктора исторических наук. Брянск, 2016. (Беларус у Бранску.)*

*12000 Прилуцкий В. В. Индейский вопрос в США в период президентства М. Ван Бюрена // Всеобщая история: современные исследования. В*ып. 17. Брянск, 2008. С. 109-119.

**ГРЫНКЕВІЧ Мікалай** (10) - вядома, што мовы беларусаў і розных груп русінаў некаторыя лічылі больш блізкімі, чым беларусаў і ўласна ўкраінцаў.

Перакладчык нататкі "Пра школу" на лемкаўскую мову - пісьменнік і актывіст руху лемкаў Уладзіслаў Грабан (Володислав Ґрабан), жыхар Крыніцы, або Крыніцы-Здруя, у складзе Новасандэцкага павета Малапольскага ваяводства, курортнага месца ў Бескідах. Ён даў нямала варыянтаў перакладу слоў у нататцы: *діти - хлопчыска, в сутерені - в пивниці, дозваляют дітям - змушуют діті, яку-небуд одежоньку - які-небуд одяг*. Як для нас, то шкада адмовіцца ад кожнага альтэрнатыўнага выразу, але гэта прыходзіцца рабіць. Ён не знайшоў аналагу для слова *прагоны*: *"прогоны - не знам што то є"*, мы пакінулі слова ў рускай форме.

***"О ШКОЛІ***

*В школі 23 хлопчыска. Они поділены на 3 класы. Шкільны залы служат разом з тыма занятныма. Залу для рекреацийных годин неє жадной. Вшыткы шкільны залы (также спальны) находьят ся в сутерені. Дві з них так слабо освітлены, што в іх середині юж недаст ся розчытати печатаной книгы. Вентиляції ниякой. Вільгіт і смрід. Друга класа і ідальня містят ся в єднім і тым самым залі.*

*Осморічны хлопчыска підлігают тым самым правилам і ведут такій сам стиль жытя, як 15 літні. Число занят є таке: класных занят з учытелями 3 ? години (од 1 ? до 5 пополудни); приготовленіе уроків 3 години (од 8 до 11 рано); сьпів 2 години (11-12 з рана і 5-6 вечером); церковна служба 2 години (6 ? - 7 ? рано). В суботы і свята служба продовжат ся до 6 годин денно. Змушуют діті носити долге волося, од чого розвели ся сильно ушы...*

*Єпископ присвоів собі грошы хлопців, котры ту з ним приіхали. Ім вшыткым (12 лудям) были выданы прогоны, і от тых прогонів каждому зостало не менше як по 200 дольарів. Кілка з тих хлопців што приіхали, одправлено юж на Аляску, і ани єдному з них не дали грошы, жебы могли купити яку-небуд одежоньку, несмотрячы на іх очевидны потребы"*. [trans. into Lemkian (Lemko) by Wladyslaw Graban (Hraban)]

(Ґрінкевіч, Ніколай. О школі / пер. з рос. Володислава Ґрабана // Веснік БІТ. 2016. 25 лют. № 11. Адзін з вядучых спецыялістаў па лемках растлумачыў, як пісаць прозвішча і імя аўтара нататкі па-лемкаўску: *"If Гринкевич is Russian it should be Ґрінкевіч, Ніколай. If he is Ukrainian it's Гринкевич, Николай"*. Выбіраючы напісанне прозвішча для беларуса ў *"рускім Сан-Францыска"* 19 стагоддзя, мы не можам дадаць да варыянтаў форму "Грынкевіч" (Grynkevich), таму што не ўжываем "ы" ў перакладах, за выключэннем натуральных польскіх версій Grynkiewicz або Hrynkiewicz.)



***Лемка-індзеяніст Багдан Яхвак (злева) і Алесь Сімакоў. Паўваў 1987 г.***

**Літ.:**

*6390 Чеб Е. Не жить, но выжить учат в школе / / День. 2001. 29 сент. С. 3. (Нагадаем, што кожны раз, калі згадваецца герой бессмяротнага твора Даніэля Дэфо Пятніца, - гэта індзеяністыка: Пятніца - індзеец).*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou,***
*researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*

**Индейцы, Indianie, indigenas, indios de America y Belarus;Grinkevich On the School Project.**





# Вуліца любімая мая

У ам. Бердаўка адбылося свята вуліцы А.А. Каранюка "Вуліца любімая мая".







Творчы калектыў Бердаўскага культурна-досугавага цэнтра падрыхтаваў насычаную музычную праграму з ушанаваннем жыхароў.

***Наш кар.***

# З дзяцінства мілы край

Па-сямейнаму цёплае свята вёскі Мохавічы "З дзяцінства мілы край..." з любоўю да сяльчан арганізавалі работнікі Тарноўскага Дома культуры.









***Наш кар.***

***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

*Адрас рэдакцыі:*
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 31.07.2023 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*